ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 40 (1677) | Пятніца, 18 мая 1962 года | Цана 4 кап.




## ГАНЬБА ПАДПАЛЬШЧЫКАМ ВАЙНЫ

Днямі ў клубе Саюза пісьменнікаў адбыўся партыйны сход. Беларускія пісьменнікі, абураны каварнымі дзеяннямі ўрада Кенедзі, які дазволіў падпальшчыкам вайны пачаць выпрабаванні атамнай зброі. Амерыканскія імперыялісты яшчэ раз даказалі, што яны з'яўляюцца ворагамі міру на зямлі. Удзельнікі сходу прынялі наступную рэзалюцыю:

«Новыя і новыя выбухі ядзернай зброі Злучаных Штатаў Амерыкі гучаць над Ціхім акіянам. Злавесныя воблакі радыеактыўных рэчываў падымаюцца ў чыстае неба, распаўсюджваюцца над зямлёй. Аднаўленнем ядзерных выпрабаванняў амерыканская ваеншчына, урад ЗША кінулі выклік усяму чалавецтву, яго надзеям на мірнае суіснаванне народаў, на спакой на зямлі. Перад усім светам паўстала драпежнае аблічча амерыканскага імперыялізму, як заклятага ворага міру, ашалелага падпальшчыка вайны.

Мы, беларускія пісьменнікі, адзінадушна далучаем свой голас да гнеўнага пратэсту мільёнаў і мільёнаў міралюбівых людзей зямлі супраць гэтага абуральнага, вераломнага акта амерыканскіх імперыялістаў, расцэньваем іх дзеянні як правакацыю ў дачыненні да намаганняў савецкага і іншых народаў захаваць мір і дружбу паміж народамі. Мы рашуча асуджаем шаленства заакіянскіх атамных вар'ятаў і патрабуем неадкладнага спынення ядзерных выпрабаванняў, дзе б яны ні праводзіліся — у акіяне, пад зямлёй ці ў касмічнай прасторы.

Мы горача вітаем людзей добрай волі ўсяго свету, якія асуджаюць правакацыйны акт амерыканскага імперыялізму, выказваем братэрскую салідарнасць з імі, заклікаем да яшчэ большай згуртаванасці магутных міралюбівых сіл. Са свайго боку мы зробім усё магчымае для барацьбы супраць пагрозы спусташальнай атамнай вайны, за ўсеагульнае раззбраенне, за трывалы мір на зямлі, за светлую будучыню чалавецтва».

## З высокай узнагародай!

**У сувязі з 40-годдзем Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя Ул. І. Леніна і адзначаючы яе вялікую работу па камуністычнаму выхаванню дзяцей, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў Усесаюзную піянерскую арганізацыю імя Ул. І. Леніна ордэнам Леніна.**

## НА ГАСЦІННАЙ ЗЯМЛІ СЯБРОЎ

Некалькі дзён у Народнай Рэспубліцы Балгарыі гасціць савецкая партыйна-ўрадавая дэлегацыя на чале з Першым Сакратаром ЦК КПСС, Старшынёй Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчовым.

Пасланцоў савецкага народа горача вітаюць працоўныя Балгарыі. Гарады братняй краіны апрануліся ў святочнае ўбранне.

У першы дзень савецкія госці нанеслі візіт Першаму Сакратару ЦК БКП Т. Жыўкаву, Старшыні Прэзідыума Народнага сходу Д. Ганеву і Старшыні Савета Міністраў А. Югаву. М. С. Хрушчоў перадаў Т. Жыўкаву копію вымпела, які дастаўлены савецкай ракетай на месяц.

У той жа дзень у Сафіі пачаліся перагаворы паміж партыйна-ўрадавымі дэлегацыямі Народнай Рэспублікі Балгарыі і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. На другі дзень савецкія госці пачалі паездку па Балгарыі. Першую пасадку самалёт робіць у Хаскаве. Картэж аўтамашын рухаецца да прамысловага комплексу «Марыца-Усход». Пасля абеду адбылася паездка ў горад Стара Загора для азнаямлення з азотна-тукавым камбінатам.

На трэці дзень знаходжання ў Балгарыі савецкая дэлегацыя наведала суднабудаўнічы і суднарамонтны завод імя Георгія Дзімітрава ў Варне. На заводскім двары адбыўся мітынг. Гасцей цёпла сустрэлі тысячы рабочых і служачых. З цёплай прамовай перад суднабудаўнікамі выступіў М. С. Хрушчоў.

Затым члены дэлегацыі на машынах накіраваліся на вядомыя чарнаморскія курорты «Дружба» і «Залатыя Пяскі». У памяць аб сваім знаходжанні на курорце М. С. Хрушчоў і Т. Жыўкаў пасадзілі два маладыя дрэўцы.

У г. Варна ў гэты ж дзень адбыўся мітынг працоўных, прысвечаны сустрэчы савецкай дэлегацыі на чале з тав. М. С. Хрушчовым.

Праязджаючы па гарадах і вёсках Народнай Балгарыі, члены савецкай дэлегацыі ўсюды бачаць, з якой радасцю сустракаюць іх балгарскія сябры. Адказваючы на цёплыя сардэчныя словы балгар, М. С. Хрушчоў запэўняе балгарскіх братоў, што Камуністычная партыя Савецкага Саюза, Савецкі Урад і савецкі народ зробяць усё для таго, каб наша дружба мацнела і развівалася.



Савецкая партыйна-ўрадавая дэлегацыя ў Сафіі. Фота спец. кар. ТАСС В. ЯГОРАВА.

## ЗА ВЫДАТНЫЯ ДАСЯГНЕННІ

Днямі ў Крамлі адбылося ўручэнне Ленінскіх прэмій 1962 года за найбольш выдатныя дасягненні ў галіне літаратуры і мастацтва П. У. Броўку, К. І. Чукоўскаму, Э. Г. Гілельсу і Л. Е. Кербелю.

Урачыстасць уручэння адкрыў М. С. Ціханаў.

Затым М. С. Ціханаў уручае дыплом і ганаровы знак лаўрэата беларускаму паэту П. У. Броўку.

Прымаючы ўзнагароду, П. У. Броўка сардэчна дзякуе савецкаму народу, Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду за высокую ацэнку яго працы.

— Я шчаслівы, — гаворыць ён, — што з'яўляюся прадстаўніком нашай шматнацыянальнай літаратуры, якая дапамагае савецкаму народу ісці наперад, да перамогі камунізма. Цяжка сказаць, што я напішу ў будучым, але цвёрда ведаю: гэта будуць творы пра нашы гераічныя дні, пра людзей, якія натхнёна будуюць новае грамадства. Нам, пісьменнікам, цяпер працаваць цікава, як ніколі.

Дыпломы і ганаровыя знакі ўручаюцца пісьменніку К. І. Чукоўскаму — аўтару кнігі «Майстэрства Някрасава», выдатнаму савецкаму піяністу Э. Г. Гілельсу, скульптару Л. Е. Кербелю, стваральніку помніка Карлу Марксу. Лаўрэаты ўсхвалявана гавораць аб высокім гонары быць савецкім мастаком, аб шчасці аддаваць свае сілы служэнню народу, роднай Камуністычнай партыі.

Намеснік міністра культуры СССР А. П. Кузняцоў горача павіншаваў лаўрэатаў і пажадаў ім новых творчых поспехаў.

Майстру савецкай графікі В. А. Фаворскаму з прычыны яго хваробы прэмія ўручана ў яго на кватэры. Літоўскаму паэту Э. Б. Межалайцісу прэмія будзе ўручана пазней.

## ГАЛОЎНЫ ФАКТАР

Мікалай РАЖКОЎ

Інструктар райкома, з якім я ездзіў аднаго разу па калгасах Быхаўшчыны, чалавек ужо немалады, з салідным жыццёвым вопытам, працаваў калісьці педагогам. Можа таму ён кожную з'яву ці асобны факт разглядаў са свайго спецыфічнага пункту гледжання:

— Тое, як працуе работнік, залежыць ад яго ведаў, працаздольнасці, свядомасці і маральнай устойлівасці,—гаварыў работнік райкома. — Усе гэтыя якасці ў чалавека развіваюцца і замацоўваюцца пад уздзеяннем выхаваўчых фактараў. З самага дзяцінства!

І тут мой субяседнік, які дагэтуль прыводзіў нямала адмоўных прыкладаў, пахвальна адгукнуўся аб Лізавеце Іванаўне Арлоўскай — брыгадзіру жывёлагадоўчай фермы калгаса «Рэвалюцыя». Яшчэ перад вайной яе напаткала гора — памёр муж. Жанчына засталася з чатырма малымі дзецьмі—старэйшаму было восем год. Нагаравалася ў час нямецка-фашысцкай акупацыі. Нялёгка даводзілася ў першыя гады пасля вайны — калгас быў зруйнаваны дашчэнту.

— І ўсё ж яна здолела выхаваць дзяцей значна лепей, чым, скажам, некаторыя... педагогі,— падкрэсліў субяседнік.

Мая цікавасць была распалена і я прапанаваў адразу ж адправіцца ў калгас «Рэвалюцыя». Гэта гаспадарка знаходзіцца на ўскраіне горада—ад райкома, дзе адбывалася размова, да праўлення калгаса і фермы дваццаць мінут хады.

Лізавету Іванаўну мы засталі на рабоце. Невысокая, увішная і гаваркая жанчына год пяцідзесяці. Загарэлы абветраны твар свеціцца добразычлівасцю. Пазнаёміліся і разгаварыліся. Арлоўская коратка расказала аб справах на ферме, паведаміла, што па надоях калгас па-ранейшаму ідзе ў ліку перадавых гаспадарак, назвала лепшых жывёлаводаў.

— А цяпер раскажыце пра сябе, — папрасіў я.

— Што ж, можна і пра сябе, —згадзілася Лізавета Іванаўна.

Мы прайшлі ў невялікае ўтульнае памяшканне, дзе на сталах ляжалі газеты і часопісы. Тут, у «чырвоным кутку», у вольныя мінуты жывёлаводы збіраюцца адпачыць, пачытаць, паслухаць гутарку, абмеркаваць свае справы.

— Не так даўно прыязджаў да нас з Масквы адзін вучоны— спецыяліст па ветэрынарыі, — пачала Лізавета Іванаўна. — Заходзіць на ферму. Я ў той час была ля кароў — лячыла іх.

— Чым займаецеся? — пытае.

— Апрацоўкай жывёлы, — кажу. — Захварэлі на франсаіялёз.

— Якую норму прэпарата ўводзіце?

—Дзесяць — пятнаццаць грамаў, — адказваю. — У залежнасці ад вагі жывёліны.

— Правільна,—пахваліў вучоны. — А цялятам прышчэпку ад паратыфу рабілі?

— А як жа, вакцыніравалі. Хворым уводзілі сываратку.

Пагутарылі мы з ім так з паўгадзіны. Я ўправілася з работай. Пайшлі ў праўленне. Госць пацікавіўся:

— Дзе вы інстытут канчалі?

— Які інстытут? — збянтэжылася я.

— Зразумела, ветэрынарны. Вы ж ветурач?

— Не, я на ферме брыгадзірам.

Вучоны здзівіўся.

— Аднак жа... тэхнікум, мабыць, вы канчалі?

— І тэхнікума не канчала. Я — радавая калгасніца.

— Малайчына, — сказаў госць. — Што значыць практыка!

— Не толькі практыка, —адказваю. — Чытаю літаратуру па жывёлагадоўлі. Сачу за навінкамі, дзе чаго навука дасягнула ў галіне заатэхнікі і ветэрынарыі, цікаўлюся вопытам лепшых жывёлаводаў. Іначай цяжка было б.

Лізавета Іванаўна, расказаўшы гэты эпізод, задумалася. Я запытаўся, ці даўно яна працуе на ферме.

— Амаль што з першых год арганізацыі калгаса. Спачатку працавала свінаркай. Пасля вайны—даяркай. А з 1950 года—увесь час брыгадзірам. З брыгадзірствам выйшла так, — працягвала Арлоўская. — Пачала мяне прасіць Настасся Корза — яна тады загадвала фермай: «Прымі, ды прымі рагатых. Не клеіцца ў мяне: каровы і цяляты хварэюць». Праўленне калгаса таксама настойвала. Ну я і згадзілася. Прыходжу дадому і кажу старэйшай дачцы:

—Прымеш, Тоня, маю групу кароў. Будзеш даяркай.

Дачцы ішоў семнаццаты год. З маленства яна навучылася даіць і часта памагала мне на ферме. Выгляд у мяне быў, напэўна, крыху разгублены і заклапочаны, бо дзеці адразу затрывожыліся.

— А цябе, мамка, куды? — спалохаўся Васіль, мой самы старэйшы.

— Цябе знімаюць? — запытаў Генадзь, меншы.

— За што? — аж заплакала маленькая Тамара. — Чаму маўчыш?

— Ты ж, мама, так добра працавала,—захліпала і Тоня.

Дзеці абступілі мяне і адно перад адным пачалі суцяшаць. Казалі, што яны дарослыя і здолеюць зарабіць і на сябе і на маці, што мне цяпер акурат сядзець дома на ласкавым хлебе.

— Усё гэта добра і я вам вельмі дзякую, — адказваю.— Але ж хто будзе ўзначальваць ферму? Мяне ж прызначылі за брыгадзірку.

— Ой, мамка! — дружна закрычалі і засмяяліся сыны і дочкі.

І зноў трывожнае:

— А ці справішся, мама?

— Калі будзеце памагаць мне, як Васіль і Тоня — спраўлюся!

Васіль першы пачаў працаваць на ферме з пятнаццаці год. Спачатку быў за вартаўніка. Бывала аддзяжурыць ноч на ферме, пакуль не прыйдуць даяркі, а затым паспіць трошкі раніцай, пасля падрыхтуе ўрокі і спяшаецца ў школу на другую змену.

А неўзабаве, акрамя таго, што вартаваў, ваду пачаў падвозіць — усё мне падмога.

Здаралася, што Вася мой не паспее і пераапрануцца і бяжыць у школу. Там яго на смех падымалі: у мокрых штанах прыбег! А ён нічога. Толькі аднойчы вельмі ўжо дапяклі—у насценгазеце намалявалі. Прыйшоў дамоў заплаканы.

Пайшла сама ў школу. Пагаварыла з класным кіраўніком, сустрэлася з дзецьмі— аднакласнікамі сына.

— Дзеці! — кажу.—Кожны з вас, напэўна, ужо сур'ёзна падумаў аб тым, кім ён будзе ў жыцці. Хто кім хоча быць?

Маўчаць, адзін на аднаго пазіраюць, мабыць, думаюць: навошта гэта цётка пытае?

— Ну, вось ты, — паказваю на аднаго хлопчыка.

— Лётчыкам, — бойка адказвае той.

— Так. А вось ты?

— Настаўніцай.

Адказы пасыпаліся з усіх бакоў. «Капітанам на караблі», «вучоным», «урачом», «музыкам», «артысткай», «шафёрам»...

— Вельмі добра. Ну, а ты Вася? — пытаюся ў сына.

— Ты ж ведаеш, мама.

— Скажы пры ўсіх.

— Жывёлаводам буду.

Зноў звяртаюся да ўсяго класа:

— Цяпер скажыце: малако, смятану, масла любіце?

— Любім! — гуртам адказваюць і смяюцца: маўляў, здагадваемся, куды гнеш.

— Ну, вось бачыце, — пада-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## КАБ НЕ ЗГАСАЎ АГОНЬ ЦІКАВАСЦІ...

**10 красавіка г. г. у нашай газеце быў надрукаваны артыкул Б. Клейна, у якім узнімаліся надзённыя пытанні работы народных універсітэтаў культуры.**

**Сёння мы працягваем пачатую размову.**

Універсітэты культуры адыгрываюць значную ролю ў камуністычным выхаванні працоўных. Іх аўдыторыі збіраюць сотні слухачоў. Асабліва ажыўлена на факультэтах літаратуры і мастацтва. Але нярэдкія, на жаль, выпадкі, калі, пачаўшы работу ў поўным складзе, факультэт ад заняткаў да заняткаў траціць наведвальнікаў. Адбываецца гэта часцей за ўсё таму, што арганізацыя і якасць лекцый і практычных заняткаў не задавальняюць, не захапляюць слухачоў. Вось аб гэтым і хацелася б пагаварыць.

Перш за ўсё аб праграмах факультэтаў літаратуры і мастацтва. Возьмем у іх раздзел мастацкай літаратуры. Колькасць гадзін на літаратурныя тэмы ў праграмах універсітэтаў культуры невялікая. І таму варта асабліва сур'ёзна прадумаць прынцып адбору матэрыялаў і пытанняў, якія павінны быць вывучаны і раскрыты на занятках. У праграмах універсітэтаў культуры мы сустракаемся з тэмамі па тэорыі і гісторыі літаратуры, са спробай асвятліць развіццё савецкай літаратуры па жанрах, пазнаёміць слухачоў з развіццём літаратур народаў СССР і яркімі з'явамі прагрэсіўнай літаратуры за рубяжом. Сама шырыня і разнастайнасць тэматыкі радуе і сведчыць аб глыбокай цікавасці савецкіх людзей да мастацкай літаратуры. Але ўся бяда ў тым, што фармулёўкі тэм, якія вызначаюць змест і напрамак лекцый, часта бываюць няўдалымі і сведчаць аб адсутнасці кваліфікаванай дапамогі і кантролю над работай універсітэтаў культуры.

Звычайна заняткі факультэтаў літаратуры і мастацтва пачынаюць тэарэтычнай лекцыяй. Гэта правільна і патрэбна. Але як гэта выглядае практычна? Навошта, напрыклад, слухачам універсітэтаў культуры чытаць лекцыю на тэму «Роля савецкай літаратуры ў камуністычным выхаванні працоўных». Такая лекцыя патрэбна для прапагандыстаў, настаўнікаў і г. д. Нарэшце, гэта сам лектар павінен прадумаць, як выкарыстаць літаратуру ў мэтах камуністычнага выхавання.

Вельмі ўдала ў 1960 годзе універсітэт культуры пры Мінскім Палацы прафсаюзаў пачаў заняткі факультэта літаратуры і мастацтва з тэмы «Літаратура і жыццё». Гэта тэарэтычная тэма, але пададзена яна так, што дала магчымасць проста, ярка, на жывых прыкладах растлумачыць, якую ролю ў развіцці літаратуры, пісьменніцкіх талентаў адыгрываюць ідэйнасць, народнасць і камуністычная партыйнасць.

Возьмем гісторыю літаратуры. Тут, як у шолахаўскага Нагульнага, цяга да «сусветных маштабаў». Праграмы стракацяць такімі неабдымнымі тэмамі, як «Савецкая паэзія», «Развіццё літаратуры народаў СССР» (гэта азначае, што за дзве гадзіны лектар павінен расказаць пра развіццё некалькіх дзесяткаў нацыянальных літаратур). У некаторых праграмах ёсць імкненне неяк абмежаваць матэрыял. Так, рускую савецкую літаратуру бяруць для лекцыйных аглядаў па перыядах: савецкая літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны, савецкая літаратура пасляваенных год. Але колькасць гадзін, што адводзяцца праграмамі на літаратуру, не дазваляе даць агляд усіх этапаў развіцця савецкай літаратуры. Тады, чым вызначыць выбар таго ці іншага гістарычнага перыяду? І, галоўнае, што можна за дзве гадзіны сказаць аб савецкай літаратуры ваеннага, а тым больш пасляваеннага перыяду. Робяцца спробы даваць агляды літаратуры па жанрах. У праграме універсітэта культуры г. Касцюковічы знаходзім тэму: «Развіццё савецкай прозы (характарыстыка творчасці М. Шолахава, А. Талстога, Ф. Гладкова, А. Серафімовіча і іншых»)! І ўсё гэта трэба асвятліць за чатыры гадзіны. Што дасць слухачам такая лекцыя?

Пытанні складання праграм, фармулёўка тэм лекцый— справа складаная і адказная. І тут універсітэтам патрэбна дапамога. А дапамога гэтая можа ісці перш за ўсё ад гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх секцый літаратуры пры Таварыстве па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў. Секцыі Таварыства могуць сабраць і абагуліць станоўчы вопыт работы факультэтаў літаратуры і мастацтва універсітэтаў культуры. Вопыт, напрыклад, гаворыць аб тым, што ўдала праходзяць лекцыі, пабудаваныя на якой-небудзь канкрэтнай гісторыка-літаратурнай праблеме: «Вобраз маладога чалавека ў сучаснай савецкай літаратуры», «Гераічныя подзвігі беларускага народа ў дні Вялікай Айчыннай вайны па кнізе М. Лынькова «Векапомныя дні», «Вобраз будаўніка камунізма ў савецкай літаратуры» і г. д. Асобныя такія ўдачы, народжаныя вопытам прапагандыстаў, можна знайсці ў многіх праграмах народных універсітэтаў нашай рэспублікі. Выбраць гэтыя тэмы, папулярызаваць як метадычную знаходку было б пэўнай дапамогай універсітэтам культуры.

Часта універсітэты культуры плануюць лекцыі манаграфічнага характару, аб жыцці і творчасці якога-небудзь вялікага пісьменніка. І тут паўстае пытанне, ці падыходзіць гэта для універсітэта культуры. Бо слухачы універсітэтаў — гэта людзі з сярэдняй, часта вышэйшай спецыяльнай адукацыяй. А што, апроч азбучных ісцін, скажа лектар у адной лекцыі аб жыцці і творчасці такіх гігантаў, як Міхаіл Шолахаў ці Леў Талстой. Ці не лепш раскрыць перад слухачамі які-небудзь адзін бок творчасці пісьменніка, найбольш істотны, і зрабіць гэта свежа і ярка.

Некалькі меркаванняў аб лектарах народных універсітэтаў. Справа ў тым, што ўказаныя недахопы ў складанні праграм адбіваюцца не толькі на зніжэнні цікавасці, але часам адбіваюць ад універсітэтаў культуры сур'ёзных, кваліфікаваных лектараў. А ў такіх выпадках адкрываецца дарога для халтуршчыкаў. Чаго таіцца, у нас ёсць сярод лектараў пэўны працэнт людзей без глыбокіх ведаў, без асаблівай патрабавальнасці да сябе, але «заўжды гатовых» да выступлення па любой тэме. А арганізатары лекцый часта згаджаюцца на іх паслугі. Трэба кінуць папрок і літаратурным кафедрам вышэйшых навучальных устаноў і секцыям Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў за тое, што яны мала думаюць аб распрацоўцы методыкі папулярызацыі літаратуры ў шырокіх масах працоўных.

Яшчэ адна бяда нашых універсітэтаў: лектар там, як залётная птушка. За два дні да лекцыі ён і не думаў пра існаванне таго універсітэта культуры, куды яго прыслалі і, вядома, не ведае, што за слухачы яго чакаюць, аб чым яны ўжо слухалі лекцыі і што будуць слухаць пасля яго. Бо практыка універсітэтаў такая: складаюцца праграмы, а потым па меры набліжэння тэрміну той ці іншай тэмы спешна шукаецца лектар. А ці не лепш прытрымлівацца адваротнага парадку. Спачатку падабраць лектараў, а потым з імі ўзгадніць тэматыку лекцый. А яшчэ нядрэнна было б першыя заняткі факультэта літаратуры і мастацтва пачынаць у кожным наступаючым годзе ў прысутнасці ўсіх лектараў, якія будуць працаваць на факультэце. І праводзіць гэтыя заняткі ў форме гутаркі з будучымі слухачамі, скажам, на тэму: «Мая любімая кніга», «Мой любімы пісьменнік», «За што я люблю літаратуру?» і г. д. Бо вельмі важна ведаць, каму ты будзеш чытаць свае лекцыі.

У заключэнне хацелася б сказаць, што паралельна з універсітэтамі культуры трэба было б весці прапаганду літаратурных ведаў і ў іншых, «малых» формах, бо ва універсітэт культуры ідуць людзі ўжо з пэўнай цікавасцю да літаратуры. І каб не зніжаўся паток слухачоў, якія ідуць у дзверы універсітэтаў, трэба абуджаць цікавасць да літаратуры ў масах. Адной з форм такой нізавой работы могуць быць гурткі аматараў літаратуры пры масавых бібліятэках. Аўтару гэтых радкоў даводзілася весці такі гурток пры бібліятэцы імя Н. К. Крупскай у Савецкім раёне г. Мінска. Гэты гурток узнік з гутарак з чытачамі ля кніжнай паліцы. Але без энергічнай арганізацыйнай дапамогі работнікаў бібліятэкі тут, вядома, не абысціся. За паўтара гады мы абмеркавалі ў гуртку многія кнігі сучаснай савецкай літаратуры («Жывыя і мёртвыя» Сіманава, «Гонар» Медынскага, «Дарогі, якія мы выбіраем» Чакоўскага, «Шлях Абая» Ауэзава). Гурток быў не шматлікім, але гутаркі заўсёды былі ажыўленыя, цікавыя.

А. ЛЕНСУ.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

28 мая (панядзелак) у 11 гадзін раніцы ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР (вул. Энгельса, 9) адбудзецца сумеснае пасяджэнне мастацкага савета Міністэрства культуры БССР, прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прэзідыума Беларускага тэатральнага аб'яднання.

На парадку дня:

**Сённяшні і заўтрашні дзень тэатральнага мастацтва** — працяг размовы аб тэатры, якая вядзецца на старонках газеты «Літаратура і мастацтва».

## САЛЮТ, ПІЯНЕРЫЯ!



Чалавеку дзесяць год. Чалавек дае ўрачыстае абяцанне: «Я, юны піянер...» У яго вачах — радасць. Ён ведае, якую пачэсную эстафету прымае ад камсамольца-піянерважатага разам з чырвоным гальштукам. Ён ведае, што такое ж абяцанне, як зараз ён, давалі некалі Паўлік Марозаў і Алег Кашавы, Валянціна Гаганава і Герман Цітоў. І ўрачыстае абяцанне дзесяцігадовага чалавека гучыць клятвай быць такім жа, як яны, як тысячы герояў — выхаванцаў піянерскай арганізацыі.

І сёння, напярэдадні вялікага свята юных ленінцаў — 40-годдзя піянерскай арганізацыі, уся краіна з хваляваннем вітае сваю надзею і будучыню:

— Салют, піянерыя!

Фотаэцюд Ул. КРУКА.

